№ 91 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Беларуская Віленская часопіс
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністраціі і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:
на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 91 (183). Год II. Вільня, 13 лістапада 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## Прэдлажэньне міра і замірэньня.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.) 9. XI. З'езд рад раб. і салд., прыніаў варункі мірнаго прэдлажэньня. З'езд заяўляе:

Вытворэны рэволюціей 5 і 6 лістапада урад работнікоў і селян, каторы апіраецца на раду раб. і салд., прэдлагае ўсім урадам ваюючых старон пачаць перегаворы аб справядлівым дэмократычным міры. Урад пераконан, што справядлівы дэмократычны мір павінен быць зроблен той-час без аннэксій, значыць, без незаконнаго захвату чужых зямель, без заваеваньня гвалтам чужых нацыональнасьцей, — і без контрыбуціі. Расейскі урад прэдлагае ўсім ваюючым высказаць сваю згоду ўчыніць энэргічные крокі дзеля аканчацельнай угоды між паўнамочнікамі ўсіх старон і націй аб варунках гэтаго міра. Пад анэксіей урад разумее прылучэньне малой і слабой націі бяз згоды яе да чужой вялікай дзержавы, — незалежне ад ступені яе цывілізаціі і географічнаго палажэньня. Калі жыхароў якога-будзь гасударства супроць іх волі задзержываюць гвалтам, дык гэта і ёсць аннексія, або незаконны захват.

Урад гатовы пазнаёміцца з варункамі кожнай з ваюючых старон. Урад апавешчае, што тайные умовы не маюць сілы, калі яны кіруюцца да падзержкі або пашыреньня расейскіх знхватоў.

Каб аблягчыць перэгаворы, ўрад пашле сваіх паўнамочнікоў у нэутральные староны.

Урад прэдлагае ваюючым зрабіць замірэньне на 3 месяцы, каторых хваце, каб давясьці перегаворы аб міру да канца.

Урад звертаецца да работнікоў Англіі, Франціі і Нямеччыны. Работнікі гэтых старон зразумеюць, што задача іх—вызваліць чэлавечэство ад страшэнств вайны і асвабадзіць рабочы клас ад эксплуатаціі.

ВЕНА. 11. XI. Комісар пры ра сейскім глаўнакамандуючым звярнуўся да ваенных камісароў і організацій праз тэлэграф бяз дроту, паведамляючы аб быўшых сягоньня стычках з большэвікамі, ў часі каторых дзе-не-дзе дайшло да праліцьця крыві. У Маскве «чырвоная гвардзія» разбіта. З усяго відаць, што ў Пецярбургі і ваколіцах ідуць крывавые бітвы між староннікамі абодвых кірункоў. Расейскі флот увесь стаіць на старане большэвікоў. Да іх прыхільна і большасць сухапутнай арміі.

ШТОКГОЛЬМ. Б. расейскі ваенны міністэр Вэрдерэвскій, нідаўна высланы Керэнскім у Валаамскі манастыр, вярнуўся ў Пецярбург і быў з радасьцю сустрэчэн Ен прыняў ізноў міністэрство ў свае рукі і бытцым-то атрымае ўласць ваеннаго дыктатора. Адгэтуль ён паедзе у Лугу, дзе збіраецца войска, каб недапусьціць верней Керэнскаму арміі ісьці на Пецярбург.

КОПЭНГАГА. «Politiken» пішэ, што расейскі пасол у Лондоне, Набоков, заявіў, што ня можэ надалей быць прэдстаўнікам Расеі, калі ўласць астанецца ў руках большэвікоў. Расейскае пасольство дагэтуль не мае ніякіх вестак с Пецярбурга.

ПАРЫЖ. «Petit Parisien»—першая француская газэта, каторая годзіцца с пабедай большэвікоў. Яна даносіць с Пецярбурга:

«Грамадзяне вельмі прыемна здзіўлены суровымі крокамі новаго ураду проці грабежцоў і ліхадзеёў».

Між арэштаванымі успамінаюць аб жонцы Керэнскаго і аб галаве кадэтоў, Мілюкове.

ЛЮГАНО. У Мілане зачынены усе тэатры і домы дзеля разрыўкі. Настроеньне вельмі нэрвовае. Хто можэ, ўцякае ў Сярэднюю Італію.

ЛЮГАНО. Паводлуг швэйцарскіх газэт, францускі генэрал Пэтэн назначэн за глаўнакамандуючаго француска-Італьянскім фронтам. Генэрал По прыбыў у Мілан. Кажуць, што часць італьянскаго войска з Македонскаго фронту вярнулася ў бацькаўшчыну. Амэрыканскае войска прыбыло ужо ў Італію, але яно працуе за фронтам.

Француская граніца будзе закрыта на месяц, каб недапусьціць ніякіх вестак аб рухах францускіх войск.

БАЗЭЛЬ. Жэневскіе газэты лічачь магчымым паварот да ўласьці Клемансо. Згода між ім і Пуанкарэ бытцым-то ўжо зроблена.

СОФІЯ. (П.Т.А.) Пры закрыцьці парлямэнту міністэр - прэзыдэнт Радославов заявіў, што ваенные мэты Боўгарыі вядомы: гэта злучэньне боўгарскіх нацыональных зямель паводлуг гісторычных граніц. «Мы жадаем Македоніі, Добруджы і звароту Боўгарыі боўгарскіх зямель, украдзеных сэрбамі. Аб сваіх жаданьнях мы заявілі саюзьнікам і нэутральным дзержавам. Ніхто ня може не прызнаць нашаго жаданьня дайсьці нацыональнай еднасьці".

БЭРЛІН. (В.Т.Б.) У Англіцкім каналі адна з нашых падводных лодак ізноў затапіла 4 параходы ёмкасьцю разам 13.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Нашы падводные лодкі ў Сяродземным моры затапілі ізноў больш за 28.000 т.

## Ад Рэдакціі.

**Каб злучыць у адно ўсе кругі і ўсе палітычные кірункі беларускаго грамадзянства дзеля агульна-нацыональнай справы: сазыву ў Вільні агульна-беларускай нацыональнай Конфэрэнціі з усіх беларускіх зямель окупаціі — функціі Рэдакцыйнаго Камітэту „Гомана" прыняў на сябе прэзыдіум Організацыйнаго Камітэту дзеля сазыву паменёнай Конфэрэнціі, зложэнаго тымчасам з ніжэйпісаных асоб:**

прэдстаўнікі беларускаго каталіцкаго духавенства: *кс. Ян Семашкевіч* і *кс. Владыслаў Толочко;*

прэдстаўнікі беларускаго праваслаўнаго духавенства: *протоерэй сьв. Міхаіл Голенкевіч* і *еромонах сьв. Савватій;*

п.п. *Вінцэнты Сьвятополк-Мірскі, Язэп Ліцкевіч, Вацлаў Ластоўскі, Іван Луцкевіч, Антоп Луцкевіч, Язэп Салавей, Домінік Семашко, Янка Станкевіч, Казімір Шафнагель, Язэп Туркевіч.*

Заседаньня прэзыдіума адбываюцца кожын дзень, апрыч нядзель, ў памяшчэньні Організацыйнаго Камітэту, Віленская 23, ад 1 да 2 гадз. папал.

## Рэволюція ідзе далей.

Здарэньня, каторые у апошніе дні мелі мейсцо ў Расеі, не становяць чагось неспадзеванаго: хто знаў унутрэнае палажэньне ў Расейскай дзержаве, той напярод мог сказаць, што далейшая вайна—гэта сьмерць для тымчасоваго рэволюцыйнаго ураду і для галавы яго—Керэнскаго.

У № 34 «Гомана» п. Лабуць пісаў:

„Мы можэм сказаць, што новы урад да далейшай вайны ешчэ не прыгатаваўся, а стары вайну праіграў. ...Калі-б яму (новаму ураду) і давялося, рэшткамі старой Расеі пробуючы ешчэ раз шчасьця ў гэтай вайне, пхнуць войска да далейшай вайны, то хваце аднаго ўдару Гіндэнбурга, каб раз назаўсёды адкрыць расейскаму народу вочы, а тады можна будзе спадзевацца развязкі..."

А крыху пазьней у стацьці п. І. М. (№ 61) мы чыталі:

„...неўдачы на фронці могуць толькі узмацаваць у Расеі жаданьне чым-хутчэйшаго міра і гэтым самым набліжыць замірэньне; але тады ў шырокіх массах можэ узняцца страшэнны бунт проці рэволюцыйнаго правіцельства... Керэнскій, каб недапусьціць анархіі, або контррэволюціі, далей вядзе вайну; спатыкаючыся з новымі неўдачамі, ён хочэ пакрыць іх новымі пабедамі і йдзе ўсё далей і далей праз горы трупаў, ды па гэтай дарозі можэ дайсьці туды, скуль упадак суліць сьмерць".

Усё гэта збылося. Пасьля разгрому ў Галічыне прыйшоў упадак Рыгі, захват немцамі Рыжскай затокі, острава Эзэля і т. д. Пасьля кожнаго ўдару жаданьне міра расло, а разам с тым чэзла вера народу да новаго ураду, аслабленая пашыраючымся голадам і агульным развалам грамадзкаго жыцьця. Але была і ешчэ адна—аснаўная прычына, каторая раней ці пазьней павінна была давясьці да упадку правіцельства Керэнскаго.

Справа ў тым, што марцовы перэварот у Расеі ўнёс зусім незначные перамены ў расейскую гасударственую сыстэму. Царскае правіцельство было заменено рэролюцыонерамі, на правінціі губернатароў замянілі урадовые камісары, але ўся вялізарная гасударственая машына не змянілася: астаўся стары цэнтралізм, асталася прынука для рознапляменных народаў Расеі жыць разам з маскоўскім народам, асталася забарона ладзіць сваё жыцьцё па-своему і сваімі рукамі ўжо цяпер, не дажыдаючы, што пастановіць усерасейскі установчы сэйм. На гэтым грунці узняліся вострые непаразуменьня між тымчасовым урадам і Украінай, Фінляндзіей, ды чысьленымі малымі „рэспублікамі", як напр. Кронштацкай і інш. Тымчасовы ўрад, узяўшы ўласць у свае рукі, здзержываў рэволюцыйны разгон народных масс і ўсё адцягіваў і адцягіваў момэнт перэдачы ўсей уласьці народу—ў рукі установчаго сэйму. Праўда, Керэнскій, прыстаўшы на жаданьне саюзьнікоў, каб Расея ваевала „да канца", ня мог іначэй паступаць: вядзеньне вайны было

магчымым толькі пры поўнай цэнтралізацыі ўласьці ў руках тымчасоваго ураду, пры захаваньні старой, хоць і блага наладжэнай сыстэмы упраўленьня. Але тут-то і таілася прычына таго, да чаго павінно было дайсьці, што мы прарочылі і што цяпер сталося ў Расеі: раз скрануўшыеся ў рэволюцыйным парыве народные массы не маглі ўжо задзержацца на поўдарозі, а як тымчасовы ўрад — с прычыны трываючай далей вайны —станавіў завалу для рэалізацыі народных дамаганьнёў, дык напор масс і скінуў яго.

Рэволюція ў Расеі йдзе далей. Куды яна дойдзе—трудна сказаць. Ясна толькі адно: што рэволюцыйные сілы ад унутрэнай барацьбы шмат аслабеюць, а гэта може узмацаваць сілы контррэволюціі, да каторай звернуцца сымпатыі лібэральнай буржуазіі, перэпалоханай радыкалізмам большэвікоў.

*Г. Б.*

# Да нашай краёвай інтэлігэнціі.

II.

(Адкрытае пісьмо).

(Пачатак гл. № 90).

Проці такіх вывадоў між нашай краёвай інтэлігэнціей мы спатыкаем многа закідоў, каторые тутака і абсудзім.

Спатыкаем, напрыклад, гэткі закід: беларуская мова — гэта ўсё роўна як мова расейская, — значыць, завядзеньне яе вядзе да „абрусеньня“. Аднак, тые-ж людзі пад той самы час даводзяць: беларуская мова — гэта не асобны язык, а толькі адна з гутарак польскай мовы, — а іншые кажуць: гутарка расейскай мовы.

Ужо стаўляючы побач гэткіе зусім нязгодлівые адзін з адным пагляды лёгка давясьці неабаснованасьці іх, — бо калі паводлуг адных беларуская мова ёсць гутарка расейская, паводлуг другіх — польская, дык само гэта ясна паказвае, што яна ня ёсць ні аднэй, ні другой, што гэта — свая асобная, выявіўшаяся ад вякоў, мо' дзе-не дзе зацёртая чужымі ўплывамі, але, паагуле, мова самабытная, якой ужывае больш за 8 мільёнаў народу на вялізарным абшары і якая мае роўнае з усімі іншымі права на жыцьцё і развіцьцё.

Другі доказ проці нашых паглядоў — тое, што народ ня цэніць свае мовы, называе яе „простай“, ужывае толькі ў халі, а ў касьцелі і ў „лепшым таварыстве“ гукае па-польску, ці—ў іншых старонах — па-расейску.

На гэта адказ кароткі: бо народ гэты, мову каторага прасьледаваў бышый расейскі ўрад ды пагардай абкідала польская інтэлігэнція і духавенство, ня ўсюды йшчэ дайшоў сьвядомасьці,—але, як і кожын іншы народ у нашых часах, хутка ўжо збудзіцца і пачне свайго права на жыцьцё дапамінацца. Памагчы яму ў гэтым — то павіннасьць тутэйшай інтэлігэнціі, ня гледзячы на тое, што сама яна гаворыць іншым языком. Павіннасць і — скажу — рэальная, мудрая палітыка.

Іншы закід: на што ў гэтых цяжкіх часах, якіе цяпер мы перэжываем, калі з-усюль грозіць нам гэтулькі небаспек, пачынаць нацыональную барацьбу, — на што дражніць і ўвадзіць новы раздзел, каторы можэ быць карысны толькі „трэйцім“?

Гэты, на пагляд, моцны доказ сам сабой губляе моц сваю, калі напомнім аб нашым становішчы ў гэтай справе: бо мы як раз хочэмо гадзіць, а не дражніць, на што паказвае хоць бы мэта нашаго прызыву да інтэлігэнціі, — мы хочэмо будаваць будучыну на аснове праўды і справядлівасьці, а не на фальшу; бо будучына, аснованая на этнографічнай і гісторычнай непраўдзе, якая выяўляецца у славах: «тут была Польшча, тут быў польскі народ, і такім ён ёсць і павінен астацца ў будучыне», — не ўдзержыцца: яна разваліцца, збанкроціцца, як ўжо не раз здаралося...

Толькі будаваная на крэпкіх народна - нацыональных асновах гасударственая будучына дасць адпор усім унутрэным і замяжовым навальніцам і будзе трываць сталецьця. Для гэткай будучыны не жаль палажыць некаторые ахвяры, адрачыся розных вузкіх формул і мар. Бо марай ёсць думка, бытцым вы здалееце апалячыць гэты многамільённы беларускі народ, бытцым здалееце даць яму шчасьце, адмаўляючы права на жыцьцё, на стварэньче свaей асобнай, нацыональнай дзержаўнасьці. Гэтаго вам не ўдалося дайсьці праз сталецьця, гэтаго не здалеў зрабіць расейскі ўрад і ніхто зрабіць не здалее, бо кожын народ ня толькі хочэ, але ў перэжываных намі часах можэ і мусіць стацца сам сабой. Плыці проці гэтаго цячэньня можэ пажадаць толькі нецьвярозы палітык, ці засьлеплены „эндэк“ (нацыоналіст).

Паменёная вышэй заява: «Тут —Польшча і т. д.», — аснована вось на чым: што Вялікае Княство Літоўскае (Літоўска-Беларускае) злучылося с Польскім Каралеўствам у адну „Речпосполітую“— Речпосполітую Польскую.

Гэтае слова „Польскую“ і ўносіць недаразуменьне ў думкі шмат людзей: адны тлумачаць яго так, бытцым яно азначае, што Літва „паддалася“ Польшчы; другіе, хоць добра разумеюць, ў чым тут справа, ды сьвядома баламуцяць людзей поўінтэлігэнтных і народные массы дзеля вядомай мэты.

Вось і трэба гэту справу акуратна разабраць.

Вялікае Княство Літоўскае злучылося некалі с Польскім Каралеўствам, маючы сперша толькі супольнаго монарха — Вялікаго Князя Літоўскаго, каторы стаўся такжэ Каралём Польскім, але пры гэтым абедзьве дзержавы захоўвалі блізка поўную незалежнасць адна ад аднэй. Толькі праз 200 гадоў дзержавы гэтые (Літва і Карона) на моцы Люблінскай Уніі (умовы) сваей ахвотай злучыліся „як вольные з вольнымі, роўные з роўнымі“ у адну “Рэчпосполітую“ (такі урадовы тытул быў прынят на Уніі для супольнай дзержавы)—коратка: „ў Рэчпосполітую“, а не ў Рэчпосполітую Польскую, — на ясна установленых варунках — пры ўзаемным забаспечэньні поўнай аўтономіі для кожнай палавіны супольнай монархіі (асобнае войска, асобны скарб, асобная ўрадовая герархія, асобные суды, а супольны толькі сэйм і супольнe выбіраны монарх, каторы меў тытул Караля Польскаго і Вялікаго Князя Літоўскаго).

Вось, гэту-то Рэчпосполітую і пачалі пасьля называць Рэчпосполітай Польскай, бо трэба-ж было даць нейкі больш гаворучый прыметнік названьня гасударства. І зусім ясна, што с такім-жэ самым правам дзержава гэта магла называцца Рэчпосполітай Літоўскай. Называлі-ж яе «Польскай» адно толькі затым, што каралеўскі тытул выдаваўся вышэйшым за тытул Вялікаго Князя (хоць абедзьве дзержавы былі роўны па сіле і значэньню), ды што Польшча, вышэйшая культурна і лежучы бліжэй да заходу, надавала ўсяму гасударству зверхны польскі характэр. Аднак, гэта зусім не азначало нейкай праўна - дзержаўнай перэвагі Польшчы над Літвой, тым болей не значыло, бытцым Літва і Беларусь абярнуліся ў Польшчу. Абедзьве злучэные дзержавы: Польшча і Вялікае Князьство Літоўскае — аставаліся тым, чым былі ад пачатку, значыць: двума асобнымі дзержаўнымі організмамі ў вядомай установленай гасударственай лучнасьці. — Калі-ж у часі упадку Рэчыпосполітай шляхоцкіе дэпутаты ад абедзьвых злучэных дзержаў на дзельчых сэймах зацьвярдзілі раздзел супольнаго гасударства паміж суседзяў, адрываючы гэтак ад Кароны (Польшчы) Літву і Беларусь, дык і люблінская умова (унія) развалілася сама сабой, утраціла сваю праўна дзержаўную моц. Ад колішняй „Рэчыпосполітай“ асталіся толькі складаўшые яе некалі земли — з аднаго боку Польшча, з другога—Літва і Беларусь (даўнейшае В. Кн. Літоўскае).

Цікаўна адзначыць, што адыным на першым дзельчым сэйме дэпутатам, каторы меў сьмеласць і сілу волі выступіць с цьвёрдым пратэстам проці раздзіраньня яго роднай Беларускай зямлі (пры першым раздзелі Масква забрала толькі часць Беларусі), быў праўдзівы патрыот і грамадзянін сваей зямлі — Тадэуш Рэйтан.

# Беларускіе легенды.

## Чорнакніжнік і зьмея, што вылупілася с пятушынаго яйца.

Помню, як быў я яшчэ маладым, у нас быў пан К. Г. Благі гэта быў пан, страх спомніць, што ён вычаўпаў: дзяцюкоў і дзяўчат жаніў і замуж аддаваў, ня гледзючы ні на прывязлівасць, ні на будучае шчасьце; ні просьбамі, ні сьлязьмі не маглі яго упрасіці, робіў свaё, зьдзекаваючыся над людзьмі без ніякаго жалю: конь і сабака мелі ў яго больш пашаны, як хрысьціянская душа. Меў ён лякая Карпу, благога чэлавека; яны абодва, перш пан, а пасьля слуга прадалі сваю душу чарту. Вось як гэта сталося:

Зьявіўся ў нашым дварэ німа ведама скуль, якісь дзіуны чэлавек. І цяпер яшчэ помню яго: нізкі, худы, заўсёды спалатнелы[1]) нос вялікі, закручэны, як у савы, пагляд бытцым вар'ята; вопратка на ім чорная і якаясь дзіўная, зусім не такая, якую ў нас носяць паны або папы. Ніхто ня ведаў, ці ён сьвецкі, ці які мніх; с панамі гукаў па расейску. Даведаліся пасьля, што гэта быў чорнакніжнік: вучыў ён пана робіць золата і іншых чартоўскіх навук.

Хоць я тады быў вельмі малады, аднак мусіў вартаваць у дварэ, абыйходзіць усе панскіе будынкі і званіць молатам у зялезную дошку. Я бачыў часта а самай поўначы ў пакоі пана блішчэў агонь, і ён чымсьці там с чорнакніжнікам заўсёды быў заняты. Адзін раз усе паснулі, ціхіня была ў дварэ, над страхой панскае хаты лёталі кажаны і нейкіе чорные птушкі. Сава, сеўшы на страсе, то рагатала, то плакала бытцым дзіцянё. Мне стало варашна[1]), але як перахрысьціўся і змовіў пацяры, крышку палягчэло; я пасьмялеў і пастанавіў прыцікавацца да панскаго вакна і глянуць праз абалону, што там яны робяць. Ледзь падыйшоў, ля сьцяны згледзіў якогась страшка. Страх спомніць: была гэта вялізная рапуха, глянула на мяне агнявым воччэм, я адскікнуў узад, уцекаў, як шалёны, і ледзь здзержаўся за 200 сігнёў[2]). Шорах[3]) прабёг па целі; я падумаў, што гэта чорт, скінуўшыся страшком, пільнаваў вакна майго пана, каб ніхто ня згледзіў сакрэтаў, што там дзеяліся. Я памаліўся і, хоць у летку было месячна і цёпла, дрыжэў бытцым на марозе; дзякаваў Богу, што хутка запеяў пятух, згасілі агонь у пакоі, і я, крыху супакоіўшыся, дaждаўся усходу сонца.

Другое здарэньне так сама было дзіўное. Я сёк дровы ў лесі; ужо сонцэ было на заходзі,—гляднау: йдзе дарогай пан с чорнакніжнікам, і як га завярнуліcь ў яловы гушчар. Я, будучы заўсёды цікавым, цікаюся і хаваюся за дрэвам, пэўны, што тамака будуць якіесь чары. Ціха было ўсюды, здалёку тыкеля стукала жаўна на гнілым дрэві. Бачу: на старой вываратні сядзіць пан, ля яго стаіць чорнакніжнік і дзяржыць за галаву вялізную гадзіну, каторая чорным хрыбтом абвіла яму правую руку. Ня ведаю, што было далей, бо са страху я уцёк.

Трэйцяе здарэньне яшчэ страшнейшае; хоць я яго не бачыў, затое чуў з вусн пэўных, і аб гэтым па усіх вёсках ваколіцы гукалі. А поўначы наш пан, гэны госць і лякай Карпа ўзялі з хлева чорнаго казла і вялі на могільнік. Кажуць, што там яны выкапалі з магілы трупа, чарнакніжнік апрануўся ў вопратку ўмершаго, забіў казла, з гэным мясам і крывёў робіў якіесь страшные ахвяры, а што там рабілася ў начы, ня можна спомніць бяз вораху[1]). Казалі, што нейкіе страшкі напаўпялі ясенькае паветра, нейкіе звяры, бытцым дзікіе кабаны і ваўкі, бегалі наукола, кругічучы і выючы так, што пан і Карпа са страху самлелі. Ня ведаю, хто іх ацуціў; тое тыкеля добра ведаю, што пасьля гэнае страшнае ночы чарнакніжнік счэз, і ніхто яго пасьля не бачыў. Пан быў заусёды смутны, хоць меў золата і ўсяго даволі, — яшчэ і больш пагоршаў, ніхто яму ўгадзіць ня мог, і Карпу прогнаў з двара.

Карпу, выслаўшы з двара, аддалі за работніка аднаму дастатнаму гаспадару, але ён больш замінаў, як памагаў, бо, змалку жывучы ў дварэ, зробіўся ляным, артачным і непаслўхмяным. Часта на яго жаліліся пану; той перэнасіў яго з аднае хаты ў другую, аде ён нідзе ня мог доўга аставацца. Напасьледак прасіў пана даць яму хату і некалькі дзесяцін зямлі, што ён на сваёй гаспадарцы больш будзе руліцца. Згодзіўся пан, дык далі яму двое канёў, некалькі кароў і іншае жывёлы на завод. Наапошку ён задумаў жаніцца, але ніводная гаспадарская дачка не хацела ісьці за яго, бо ніхто не галіўся ні на яго, ні на ягоную гаспадарку, дый думалі, што ў яго ні веры, ні Бога ў сэрцы не было.

(Далей будзе).

[1]) Бляды.

[1]) Страшна, жутка, трывожна.
[2]) Сігень—крок, шаг.
[3]) Дрыжанка, што бывае кароткі час і заусёды ад страху падчас гэтае дрыжанкі бытцым электрычны ток прабягае па целі.

[1]) Страху.

